№ 3 (145). Вільня, 5 Лютага 1939 г. Год XI.

# Шлях Моладзі



Šlach Moładzi

ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

## Да барацьбы з найвялікшым ворагам чалавецтва!

Чалавек — валадар гэтага сьвету,абдараны розумам і вольнай воляй, вырываючы ўсе тайніцы прыродзе, паказваючы вялізарную сваю сілу, зьяўляецца адначасна істотай слабой, няздольнай часта перамагчы сваіх нутраных хаценьняў, каторыя вядуць яго да згубы. Дзеля таго паміж людзей распаўсюджваюцца розныя благія нахілы, прывычкі, сярод якіх адно з першых мясцоў займае п'янства і курэньне тытуну. Культурныя людзі дбаючыя аб будучыні чалавецтва, яго здароўі і разьвіцьці, пастанавілі з усім тым, што нясе чалавецтву шкоду пачаць сыстэматычную, пляновую барацьбу. З гэтай мэтай з году ў год адбываюцца, між іншым, тыдні і месяцы цьвярозасьці, у часе якіх змаганьне з ворагамі нашага здароўя і разьвіцьця прыймае асаблівы характар і найбольшыя разьмеры.

У радох змагальнікаў за цьвярозасьць стаў і наш часапіс «Шлях Моладзі». Іначай фактычна і не магло быць. Навал карэспандэнцыяў і вестак з нашых родных вёсак гаворачы аб розных страшэнных трагэдыях выкліканых надужываньнем алькагольных напіткаў змушаў бліжэй зацікавіцца і заняцца балючай гэтай справай. Такім чынам ад пару год сыстэматычна вядзём, як умеем і як можам, акцыю супроць п'янства і курэньня—за цьвярозасьць і здароўе народу і дарагое моладзі. Чытачом нашым мо' ўжо і абрыдла чытаць артыкулы, карэспандэнцыі і зацемкі аб гэтай справе, каторыя да знуджэньня ня раз паўтараюць тое самае. Абрыдла гэта і нам, асабліва жудасныя карэспандэнцыі аб разбоях, самагонцы і дэмаралізацыі,з каторых палавіна нават ня йдзе да друку. Абрыдла тым больш, што ня відаць канкрэтных дадатніх вынікаў барацьбы. Так напрыклад найнавейшыя статыстычныя дадзеныя гавораць, што п'янства павялічаецца. У працягу першых 10-х месяцаў 1938 г. у Польскай Рэчыпаспалітай выпілі гарэлкі на 35 мільёнаў злотаў больш, чымся ў 1937 г. Тытуну-ж скурана на 14 мільёнаў злотаў больш. Пры тым наш край далей не астаецца з-заду. У 1939 г. мае быць пабудавана 150 новых бровараў дзеля павялічэньня прадукцыі сьпірту. Карыстае з гэтага, праўда, гаспадарственны скарб, якому сьпірт і гарэлка дае каля 300 мільёнаў зл. чыстага даходу ў год. Больш аднак здаецца скарысталі-б людзі і гаспадарствы, каб тыя грошы, што ідуць на гарэлку і тытун, пайшлі на карысныя рэчы, як кніжкі, газэты і іншыя культурныя і гаспадарскія справы. Бо-ж гарэлка, алькаголь, атручваюць людзкі арганізм, вядуць цэлыя пакаленьні да звырадженьня фізычнага і маральнага. П'янства руйнуе людзей матарыяльна, выклікае розныя хваробы, разбой, напаўняе вастрогі. Словам, зьяўляецца яно прычынай зла, з каторым увесь культурны сьвет і кажнае гаспадарства вядуць барацьбу. Дзіўна тады выглядае, што большасьць гаспадарстваў ня прыймае дзейнага ўчасьця ў змаганьні з п'янствам. Дзіўна так-жа, што не знайшла прыхільных адносінаў у польскіх адміністрацыйных уладаў вельмі карысная думка сарганізаваньня Беларускага Таварыства Цьвярозасьці ў Вільні, мэтай якога была арганізаваная барацьба з п'янствам у нашым краю і культурная праца.

Незацьверджаньне аднак статуту Бел. Т-ва Цьвярозасьці, а таксама тое, што пакульшто ня бачым мы канкрэтных вынікаў барацьбы з п'янствам, ня можа нас спыняць у пачатай працы.

Ня маем магчымасьці змагацца з п'янствам і курэньнем тытуну шляхам арганізацыйным, дык павінен гэта рабіць кажны Беларус паасобку накіроўваючы свае натугі ў адным беларускім кірунку. Трэба на кажным кроку, у кажным грамадзкім, таварыскім, а перад усім у сямейным кругу зварочваць увагу на шкоднасьць алькаголю і тутыну; на тыя ўсе беды, якія яны нам прыносяць і, карысьць, каторую можна мець кіруючы прапіваныя і пракурываныя грошы на справы карысныя, культурнасьветныя і гаспадарскія. Мусім стварыць такі агульны настрой, каторы стрымаў-бы гон да п'янства. Моладзь павінна неадкладна выводзіць гарэлку з сваіх вечарынаў аб'яўляючы таварыскі байкот тым сваім сябром, якія непапраўна ўсьцяж будуць напівацца і абрыджаць агульнае жыцьцё. Інтэлігенцыя, не зважаючы на першыя няўдачы далей павінна дамагацца легалізацыі Беларускага Таварыства Цьвярозасьці. Гэтага вымагае ад нас дабро Беларускага Народу і агулам дабро ўсяго чалавецтва!

Я. Н.

# Патрэба беларускага праваслаўнага выдавецтва

Праваслаўнае духавенства вельмі часта наракае на сваё цяжкое палажэньне, а так-жа на тое, што Беларусы, беларускае сялянства, асабліва мужчыны, ня ходзяць у царку і не падтрымліваюць праваслаўя. Фактычна аднак праваслаўныя Беларусы моцна трымаюцца свае рэлігіі, але нажаль паступкі духоўнікаў часта адстрашаюць іх ад Царквы. Для прыкладу возьмем хоць-бы рэлігійную праваслаўную прэсу у Польшчы. Вось-жа мы бачым, што Мітраполія і тыя людзі, каторыя каля яе круцяцца, выдаюць і пашыраюць сярод Беларусаў, Украінцаў расейскія часапісы. І так выходзіць „Воскресное Чтеніе,“ „Слово“ з дзіцячым дадаткам. Ад новага-ж 1939 г. „Воскр. Чтеніе“ мае дадаткі: „Трезвость“ і „Дѣтскій Лістокъ.“ Тымчасам беларускага нічога няма. Праўда, быў час, калі Мітраполія выдавала беларускі часапіс „Праваслаўны Беларус,“ украінскі тыднёвік „Духовна Беседа,“ а пасьля былі дадаткі да „Слова“—для беларускіх дзетак „Снапок“ (у 1937 і 1938 г.) а для украінскіх — „Дитина,“ але ўсё гэта трывала вельмі коратка і даўно зьліквідавана. У імя справядлівасьці трэба адзначыць, што выдавецтва беларускага часапісу „Снапок“ было зьліквідавана з незалежных ад Мітраполіі прычын. Але ізноў-такі трэба сьцьвердзіць, што Мітраполія патрапіць абараніць і выдаваць часапісы расейскія, а беларускія і ўкраінскія спакойна ліквідуе. Пасьля гэтага, як правільна зварочвае ўвагу украінская газэта „Новий Час,“ нахальна расьпіхаецца сярод духавенства і сярод праваслаўных Беларусаў і Украінцаў „Слово“ і „Воскр. Чтеніе.“

Такія адносіны кіраўнікоў Праваслаўнае Царквы у Польшчы да выдавецкае праваслаўнае працы беларускае і ўкраінскае, як і агулам адносіны праваслаўнага духавенства да Беларусаў і Украінцаў, ствараюць настрої для Царквы вельмі некарысныя. Народ глядзіць на сваіх настаяцеляў і на Мітраполію, як на русыфікатараў і адхіляецца ад Царквы. Дзеля таго русыфікатарская акцыя праз Царкву павінна раз назаўседы скончыцца. Духоўнікі павінны навучаць народ наш беларускі пабеларуску. Мітраполія-ж павінна неадкладна выдаваць праваслаўную літаратуру - кніжкі і часапісы—пабеларуску і паўкраінску. Гэта цесна злучыць народ з Царквой, з духавенствам, падыме дух рэлігійнасьці, а Праваслаўе будзе прадстаўляць сабой магутную маральную сілу. І гэтага павінны дамагацца Праваслаўныя Беларусы на усіх прыхадзкіх сабраньнях, а так-жа пры кажным спатканьні з сваімі праваслаўнымі душпастырамі!

*Малады праваслаўны Беларус*

**Грамадзяне! Памятайце аб беларускай моладзі і прысылайце ахвяры на дапамаговы фонд беларускім незаможным а здольным вучням і студэнтам на адрыс: Red. „Słachu Moładzi“ — Wilno, Zavalnaja vul. 1—2.**

# Зямлі і ў нас мала

Есьць людзі, якія ня могуць бачыць сапраўднасьці ў такім сьвятле, у якім яна нармальна выглядае. Да такіх людзей належаць між іншым супрацоўнікі „Ilustrowanego Kurjera Codziennego.“ Апошнім часам гэтая газэта выступіла з праектам павароту ўсіх выехаўшых калінебудзь польскіх эмігрантаў. Паводле гэтай газэты ўсіх эмігрантаў Палякоў на ўсім сьвеце налічваецца каля васьмі мільёнаў. Мы проціў такога праекту, ясна, нічога ня маем, бо самі ўважаем, што родная краіна мусіць адзець і пракарміць, прытуліць усіх сваіх сыноў, каб ня мусілі яны туляцца па чужых кутках. Але, кракаўская газэта аднак пераб-рала меру. Бо дзе і з чаго будуць жыць тыя эмігранты? І тут выступаюць кур'езы. „Кур'ер“ радзіць асадзіць хаця палавіну эмігрантаў на „Крэсах Усходніх,“ дзе, маўляў, зямліцы вольнай хоць адбаўляй, а гушчыня насельніцтва малая. Вось-жа паны з „Kurjera Codziennego“ моцна памыліліся, бо ў нас як-раз зямлі вольнай няма, гушчыня-ж насельніцтва шмат большая, чымся ў некаторых паветах Цэнтру Рэчыпаспалітай Польскай. Апрача таго няможна забывацца, што калі там цесна—дык там памагаюць весцы разбудовай промыслу (Цэнтральны Окрэнг Пшэмыславы), у нашым-жа краю нічога падобнага няма. Дык, пакуль пісаць, трэба раней усё добра дасьледзіць і пустых слоў ня кідаць!...

*П.*

**Янка Брыль**

# Леў Талстой аб шкоднасьці алькаголю

*(Выпіскі з твораў у свабоднай апрацоўцы)*

Чалавек ідзе ноччу з ліхтаром і цяжка распазнае дарогу, зблуджвае і ізноў зыходзіць на добры шлях. І вось чалавеку абрыдла распазнаваць дарогу і ён тушыць сьвятло ліхтара, ды йдзе куды папала. — Ці-ж ня тое самае робіць чалавек адурваючы сябе алькаголем, тытуном?—Цяжка распазнаваць шлях у жыцьці, каб ня блудзіць, а калі зблудзіў — ізноў выйсьці на дарогу. І вось людзі, каб ня трудзіцца распазнаваць шлях, тушаць у сабе адзінае сьвятло — розум — п'янствам і курэньнем.

1

Ніхто ніколі не напіваўся дзеля таго, каб рабіць добрае: каб працаваць, абдумаць пытаньне, даглядаць хворага, думаць аб тым, як трэба жыць, каб пражыць жыцьцё найразумнейшым спосабам. Большасьць-жа злога робіцца чалавекам тады, калі ён п'яны. Адурэньне сябе алькаголем гэта яшчэ не праступак, гэта падгатаўленьне сябе да рознага роду праступкаў.

Ня гледзячы на тое, што кажны — хто п'е ці курыць — ведае, што ад гарэлкі ці тытуну настрой зьменьваецца і перастае быць сорамна тое, што сорамна цьвярозаму; што пасьля кажнага, хоць і дробнага дакору, сумленьне так і цягне да якога-небудзь дурману; што пад уплывам адурваючых сродкаў трудна абдумаць свае жыцьце і палажэньне, — людзям, якія п'юць і кураць, здаецца, што яны ўжываюць адурваючыя сродкі зусім ня дзеля заглушэньня сваиго сумленьня, а толькі таму, што гэта смачна і прыемна.

Людзям здаецца, што выпіць трошкі, — значыцца трошкі зацямніць свой розум, сваё сумленьне, — ня шкодзіць. Але думаць гэтак — усё роўна, што думаць аб тым, што гадзіньніку зашкодзіць, калі яго бразьнем аб камень, але не

# ПРАЎДА ПРАНІКАЕ

Праўда пачынае паволі пранікаць нат туды, куды раней часта доступу ня мела. Людзі, якія кіруюць жыцьцём мільёнаў сялян, як казаў гішпанскі філёзаф Мігуэль Інашуно, робяць шум у гісторыі, да гэтага часу цьвердзілі, што на сьвеце ўсяго хапае для заспакаеньня людзкіх патрэб. Гэтак цьвердзілі польскія эканамісты аб Польшчы, радзячы толькі, каб стараца як мага больш з Польшчы вывесьці тавараў, каб нутраны рынак асвабодзіць з іхнага надмеру. Яны з прычыны блізарукасьці не маглі зразумець, што калі ў іх, ці іх акружэньні ўсяго хапае дзеля жыцьця, то нельга гэтага сказаць аб усіх. Мы, г. зн. беларускія сяляне, якія бачылі праўду, казалі і казаць будзем, што калі рынак заваленьі белай мукой, салам, мясам, то гэта яшчэ не таму толькі, што ў нас сьвірны гнуцца ад гэтага дабра, а найчасьцей дзеля таго, што мы апошняе мусім прадаваць на рынку, каб неяк зьвязаць канцы з канцамі. І вось іменна гэтая праўда, што калі магазын крамніка поўны, ня значыць, што селянін, які крамніку апошняе прадаў, мае таксама поўна, пачынае пранікаць і да гэтак званых вучоных эканамістаў. Пачынаюць яны адвыкаць ад тыповай жыдоўскай філёзофіі, што калі селянін прадае, то ён прадае лішку, а не адрываючы ад рота. Прыемна гэтае зьявішча адзначыць і падаць да ведама агулу чытачоў „Шл. М.“ Да такіх эканамістаў залічыць трэба др. Пілецкага Ю., дырэктара эканамічнага бюра саюзу землярробскіх палат.

На паседжаньні Землярробскага Т-ва ў Торуні др. Пілецкі сказаў: Мы крычым, што ў нас за „шмат“ збожжа і мы ня маем яго дзе збыць. А тымчасам гэтае „шмат“ азначае, што мы галадаем, а прадаем з мусу, бо нас гоніць бяда. Калі-б мы маглі зьесьці так, як ядуць нармальна людзі ў Англіі, Францыі, Голяндыі, Даніі і т. д., а нат' як у Літве, нашай суседцы, то ня было-б чаго прадаваць, мы-б самі ўсё зьелі.

З гэтага вынікае, што мы не даядаем. Зьявішча такое вельмі прыкрае. Прыкрае таму, што ня могучы нармальна аджыўляцца, мы змушаны карлець фізычна. Такі закон прыроды.

Палепшыць быт можа толькі ўсебаковае разьвіцьцё сельскай гаспадаркі і падняцьце ўраджайнасьці палёў. А на гэта трэба шмат чаго. Перадусім мусім мець уплыў на кіраўніцтва краінай, мусім мець самаўрад, які-б галоўнай задачай паставіў палепшаньне гаспадарак. Што гэта не пустаслоўе,— бачым на прыкладзе Літвы. І таму мусім лезьці ў самаўрады, каб пры іх помачы магчы сягаць вышэй. Умовы дзеля асяганьня сваіх мэтаў вельмі цяжкія, але іменна таму мусім падвоіць нашы натугі. Бо будучы прыладдзьдзем толькі ў чужых руках ніколі ня дойдзем да паправы свайго быту. Пачынаць-жа працу трэба з самага нізу. Трэба выбіраць людзей сваіх, людзей, якія стаяць за народ—усёроўна, ці то ў грамадзкую, ці ў валасную, ці ў паветавую раду, ці ў Сойм ці ў якую небудзь іншую грамадзкую ўстанову або арганізацыю. Трэба гэта рабіць самому і паясьняць свайму суседу. У грамадзе і сьведамасьці сіла.

З.

## *МІХАСЮ МАШАРЫ*

*ў дзесятыя ўгодкі літаратурнай творчасьці*

*Дзесяць год Тваіх песень зьвінячых*
*калыхаўся над краем напеў;*
*дзесяць год шлях да сонца Ты [значыў;*
*з калосамі, з травою шумеў.*

*Сэрцам шчырым, натхнёнай душою*
*Край заснуўшы да шчасьця будзіў;*
*мо' ня раз Ты паспорыў з сабою:*
*але шчыра ішоў—ня блудзіў.*

*Якбы верны жаўнер стаў на варце,*
*здраду чорную кінуўшы прэч,*
*стаяў горды, адважны, упарты,*
*хатуля ня зьнімаючы з плеч.*

*Хоць Ты бедны, забыты, галодны—*
*ад багатых ахвяр ня прыймаў,*
*для працоўных быў мілы і родны,*
*бо для іх свае песьні складаў.*

*Можа чорная ноч запануе*
*і захочыць нам сонца закрыць,*
*сьнег пуціны усе завіруе —*
*будзеш словам як звонам званіць.*

*А усе, хто ў нядолі і горы,*
*ўсе, што ліраі патрапіў збудзіць,*
*„На сонечны бераг“ — прасторы*
*пойдуць шчасьце і долю здабыць!*

Іказьнь 1.І.39.

*МІКАЛАЙ БАЗЫЛЮК.*

---

зашкодзіць, калі належыць у сярэдзіну яго машынэрыі парушынку.

Усё вялікае і малое, магутнае і слабое, добрае і злое, перш чым зьдзейсьніцца сапраўды, радзілася ў розуме, у сьведамасьці чалавека.

Дзеля таго, каб чалавек зрабіў нешта рукамі ці нагамі, трэба, каб перш зрабілася нейкая, патрэбная для гэтага, зьмена ў ягонай сьведамасьці. І вось гэтыя зьмены й азначаюць усе чыннасьці чалавека, ідучыя за імі. Зьмены-ж гэтыя заўсёды бываюць малюсенькія, амаль што нярыкметныя.

Чалавек падумаў нешта зрабіць. І вось дзеля таго, каб правільна рашыць пытаньне: **ці рабіць, або як рабіць** тое, што хочацца рабіць, — асабліва важнай бывае найбольшая яснасьць думкі і вось тагды іменна адна чарка гарэлкі, адна выкураная папяроска могуць перашкодзіць рашэньню пытаньня, адсунуць гэтае рашэньне, могуць заглушыць голас сумленьня, спрыяць рашэньню пытаньня на карысьць нізшае, зьвярычае прыроды чалавека.

Дык трэба нам, на колькі гэта ад нас залежыць, старацца паставіць сябе і другіх у такія абставіны, пры якіх не нарушалася-б яснасьць і тонкасьць думкі, неабходныя дзеля правільнай работы сьведамасьці, а не рабіць адваротна, стараючыся затрудніць, заблытаць гэтую работу сьведамасьці спажываньнем таго, што ап'яняе, адурвае розум.

Дзеля таго, каб людзі маглі добра і шчасьліва жыць, найбольш патрэбны ім іхні розум, і таму людзям трэба было-б даражыць сваім розумам больш за ўсё, а між тым людзі знаходзяць прыемнасьць іменна ў тым, каб заглушваць гэты розум тытуном, гарэлкаю і іншымі ап'яняючымі сродкамі. А гэта таму, што людзі хочуць жыць нягодным жыцьцём, — жыцьцём патураньня і служэньня сваім асабістым, самалюбным, нізкім жаданьням, — а розум іхні, калі ён незаглушаны, паказвае ім, што жыцьцё іх нягоднае.

## PADZIAKA

Usim Hramadzianam Biełarusam, što tak ščyra i salidarna adhuknulisia na našа vysialeńnie, pravodzili nas asabista da ciahnika, a tak-ža prysłali svaje spačuvańni ŭ pišmach — hetym addušy dziakujem i pryrakajem dalejšuju viernaść biełaruskaj nacyjanalnaj idei, Biełaruskamu Narodu.

(—) Inž. Ad. Klimovič
(—) Ks. Ad. Stankievič

Varšava—Słonim, 27 studnia 1939 h.

## ПРАВІЛЬНАЯ АЦЭНА

*(Водгукі юбілею Міхася Машары)*

Літаратурны юбілей найбольш папулярнага цяпер сярод Беларускага Народу ў Польскім Гаспадарстве паэта маладога пакаленьня Міхася Машары адзначыла бадай уся беларуская прэса. Прысьвяціў гэтаму юбілею спэцыяльны артыкул і „Беларускі Фронт" у № 3 з 1.II.39, у якім разгледжаныя нацыянальна-грамадзкія матывы творчасьці Машары. Аўтар артыкулу М. Ш. падыйшоў да справы безстаронна і разгледзіўшы творчасьць Машары сьцьвярджае перадусім вялікую стойкасьць і ідэолёгічную яснасьць паэта, чаго чамусьці ня хоча бачыць Максім Танк гаворачы, што Машара ходзіць па закінутых вясковых дарожках. Асабліва выразна ў Машары прадстаўлены найвышэйшыя беларускія нацыянальныя ідэалы і гэтым, а так-жа сваей стойкасьцю, як зусім правільна кажа М. Ш., Машара імпануе і займае бязспрэчна першае месца.

Усё вышэйсказанае аб Машары можна было-б падтрымаць многімі цытатамі з ягонае творчасьці, а так-жа шматлікімі галасамі вёскі і крытыкі, аднак дзеля зразумелых прычын рабіць гэта нявартa.

Пішучы аб Машары, М. Ш. закрануў справу пяршынства сярод паэтаў нашага маладога пакаленьня і аб гэтым так кажа: „Разважаньні на тэму, хто мае заняць першае месца, Машара, Танк ці Арсеньнева, было-б пустой дыскусіяй. Творчасьць кажнага з гэтых паэтаў мае свае індывідуальныя асаблівасьці, неспатыканыя ў іншых. Адно тольکі можна сказаць, што з гледзішча беларускага нацыянальны элемэнт у творчасьці Машары дагэтуль займае бязспрэчна першае месца і Машара справядліва можа быць названы народным паэтам **новай нацыянальна-сьведамай Беларусі**".

Правільным так-жа ёсьць пажаданьне М. Ш., каб Машара ня губляў свае індывідуальнасьці і не зважаў на тых крытыкаў, каторыя імкнуцца падстрыгаць усіх паэтаў на адзін фасон.

**Я—к.**

* * *

Прысьвячаю: „Паэту над паэтамі,
крытыку над крытыкамі".

*О, крытык слаўны мой!*
*О, крытык срогі!*
*Навошта гнеў*
*і накіп кпін пусты?*
*Ніколі я ня быў — „ідэалогам"*
*й „унівэрсальным" —*
*так, як ты.*

*Ня ўсім-жа йсьці „вялікаю" дарогай*
*і мець узмах такіх магутных крыл...*
*Зямлі ня трэба „геніяў" так многа,*
*жыцьцю ня трэ' —*
*шаўцоў ў адзін капыл.*

*Ня ўсім так ясна ў далях сьвеціць мэта,*
*ня ўсім адкрыта тайна праўды ўся.*
*Я ўсёткі маю сьмеласьць быць паэтам,*
*кахаць людзей і хараство жыцьця.*

*І нават шчыра веру Адраджэньню,*
*(ня так вялік у гэтым, братка, грэх).*
*Вось біць па ўсіх і ўсім —*
*сваім „натхненьнем"*
*хіба патрэбна ёсьць —*
*курам на сьмех...*

*М. М.*

2

Але, п'юць і кураць ня так сабе, ня з нуды, не для вясёласьці, не таму, што прыемна, а дзеля таго, каб заглушыць у сабе сумленьне.

Калі гэтак, дык якія-ж страшэнныя павінны быць з гэтага вынікі!

Падумайце толькі, які быў-бы той будынак, каторы людзі будавалі-б ня з простай грунтвагай, па якой яны раўнялі-б сьцены, не з простакутным вугламернікам, якім яны азначалі-б вуглы, а з мяккай грунтвагай, якая зьгіналася-б па ўсіх няроўнасьцях сьцяны, ды з вугламернікам, які складаўся-б ды прыходзіўся да кажнага вугла і тупога, і вострага.

А вось-жа тое самае і робіцца ў жыцьці дзякуючы таму, што чалавек ап'яняецца. Жыцьцё не згаджаецца з сумленьнем, а сумленьне зьгінаецца да жыцьця. Гэтак робіцца і ў жыцьці паасобных людзей і ў жыцьці ўсяго чалавецтва, якое складаецца з жыцьця паасобных людзей.

Дзеля таго, каб зразумець усё значэньне таког атуманеньня свае сьведамасьці, няхай кажны чалавек добранька ўспомніць свой духовы стан у кажную пару свайго жыцьця. Кажны чалавек знайдзе, што ў кажную пару яго жыцьця перад ім стаялі тыя ці іншыя маральныя пытаньні,*) якія трэба было яму вырашыць, і ад вырашэньня якіх залежыла ўсё шчасьце яго жыцьця. А каб здалець вырашыць гэтыя пытаньні, трэба добра напружваць усю сваю ўвагу. А гэта ўжо праца. У кажнай-жа працы, асабліва на пачатку яе, ёсьць пара, калі праца здаецца цяжкой, мучыць, і слабасьць людзкая гавора пакінуць яе. Праца ручная, фізычная, як кажуць, здаецца мучыць — на пачатку яе; яшчэ больш мучыць, здаецца, праца разумовая. Людзі чамусьці пакідаюць думаць тады, калі думаньне пачынае быць трудным; імення тады, калі яно пачынае быць плодным. Чалавек чуе сэрцам, што дзеля таго, каб вырашыць стаячыя перад ім пытаньні, трэба працы,

*) У чым сапраўднае дабро, а ў чым зло; як трэба пастунаць, каб пастунаць добра, разумна.

## Назад — у прыроду

Далёкім продкам нашага каня быў і лясны конь, які зваўся *тарпан*. Быў гэта конь непераборлівы, здаровы і вельмі трывалы. На ўзмацненьне сяньняшняга каня кроў гэтага тарпана вельмі прыдалася-б. І таму з пачыну праф. Т. Вэтуляні (б. прафэсар у Вільні) і праф. А. Антоніуса (Вена) паўстаў праект аднавіць тарпана ў адумысным лясным загоне (рэзэрват) ў Белавежскай пушчы, ці йнакш кажучы давясьці пастаўленых там коняў да стану зьдзічэньня. З гэтай мэтай, як падалі фаховыя часапісы, тры гады таму назад (люты 1936 г.) у Гарадоцкае надлясьніцтва прывязьлі з Білгарайскага павету 5 кабыл, 1 жарабца старога—Ліліпута і 1 маладога—Майдана. Загон гэны лічыў спачатку толькі 4 га.

6 ліпня 1937 г. коні гэныя былі пераведзены ў надлясьніцтва Зьвярынецкае, дзе прастор загону быў ужо 18 га, падзеленых на 4 кватэры, з якіх кажная мела крыху вольнай паляны і лесу. Агульны стан гадоўлі на 1.X.37г. выносіў 8 кабыл старых, 3 маладыя і 2 жарабцы. Сягоньня-ж ёсьць там усяго 32 штукі. З гэтага 8 жарабят—сялетак (5 кабылак і 3 жарэбчыкі).

Зразумелая рэч, што ўсе гэтыя коні, гэта яшчэ ня той сапраўдны стары тып лясного тарпана. Да гэтага тыпу йдуць шляхам падбору і ствараючы варункі бытаваньня такія, у якіх жыў конь дзікі. Калі ў лесе ёсьць трава, дык коні жывуць толькі ей, а ўвосені, узімку і раньняй вясной дастаюць удоваль сена і па 1—2 клг. аўса на штуку. Цэлымі днямі прабываюць на паляне ці ў лесе, толькі падчас дожджу ўлетку ці завеі ўзімку хаваюцца пад страху шалашоў.

Дагэтуль найдалей пайшоў у зьдзічэньні стары жарабец Ліліпут, які не дапускае ў табун нікога чужога і наагул беражэ парадак. Ува ўсіх-жа коняў гэтага табуна значна ўзрастае адпорнасьць на вонкавыя нявыгоды.

## Kali i jaki budzie kaniec śvietu?

Hutarki ab skančeńni śvietu na vioscy vielmi pašyrany i zaŭsiody badaj aktualnyja. Bo ŭściaž znachodziacca roznyja fantaziory, jakija pradkazvajuć toj ci inšv hod na kaniec śvietu. Asabliva-ž pašyranyja byli henyja hutarki ŭ 1937 h., kali ŭ nočy z 30 na 31 kastryčnika adnosna blizka ad ziamli pralacieła planeta „I.V 1937," i kali i vučonyja bajalisia mahčymaści ŭdaru planety ŭ ziamlu, katory ŭsio źnistožyŭ-by ŭ nas

Viedajem adnak, što kaniec śvietu pradkazvaje Śviatoje Piśmo i spravu hetu točna daśledžvajuć vučonyja, jakija pradbačvajuć takža kaniec śvietu. Vučonyja kažuć, što mohuć być dźvie mahčymaści kanca śvietu: pieršaja—heta tady, kali ziamla dažyvie svoj viek i ŭpadzie na sonca dy spalicca, a druhaja—kali sonca „spalicca" i kaniec-kancoŭ ziamla biez śviatła i ciapła pakryjecca hrubym viečnym lodam. Paśla hetaha žyćcio na ziamli budzie niemahčymym.

Pakul-što adnak možam žyć spakojna, bo vučonyja vyličajuć, što śmierć ziamli takim sposabam moža być tolki za mnoha-mnoha miljonaŭ hod. Ale adnačasna ličacca jany z mahčymaściaj spatkańnia i strašnaha śmiarotnaha ŭdaru ziamli z inšaj planetaj. Takoje spatkańnie i ŭdar mohuć žbić ziamlu da sonca, abo ŭ biaźmiežny prastor i tady było-b, jak kažuć, pa ŭsim.

Moža jašče nastupić kaniec śvietu i z pryčyny pastupovaha astyvańnia ziamli. Z pryčyny źnižki temperatury (haračyni, ciaplini) ziamli mohuć zahavaryć—vybuchnuć vulkany i pieraviarnuć u našym śviecie ŭsio naadvarot: mora zamienicca na sušu, a na dasiulešnich suchaputnych miescach paŭstanuć vializarnyja mory i akijany. Hetuju teoryju kanca śvietu padtrymlivaje navuka ab ziamli. Budova ziamli i roznyja archeolohičnyja raskopki vyjavili, što takija pieramieny paradku na ziamli ŭžo byvali. Adnak i heta mahčymaść pakulšto nia strašnaja.

Zb.



напружанай, часта з мукай, працы і хочацца яму выкруціцца ад гэтага. І вось, каб ня было ў яго ўнутраных сродкаў ап'яненьня (алькаголю, тытуню), дык ён ня мог-бы выгнаць з свае сьведамасьці стаячых перад ім пытаньняў і хоцькі-ця-хоцькі прыйшоў-бы да неабходнасьці вырашыць іх. Але вось чалавек знаходзіць сродак адганяць гэтыя пытаньні заўсёды, калі яны зьяўляюцца, і карыстаюцца гэтым сродкам. Як толькі пытаньні пачынаюць мучыць чалавека, ён хапаецца за сродкі ап'яненьня і пытаньні перастаюць яго турбаваць ды трывожыць. Сьведамасьць перастае вымагаць ад чалавека вырашэньня іх, а яны астаюцца нявырашанымі да наступнай сьветлай пары. Але падчас наступнай сьветлай пары паўтараецца тое самае, і чалавек месяцамі, гадамі, а калі дык і ўсё сваё жыцьцё стаіць перад тымі самымі маральнымі пытаньнямі, ні на крок ня кратаючыся з месца дзеля іх вырашэньня. А між тым у вырашэньні маральных пытаньняў знаходзіцца ўвесь сэнс жыцьця.

Робіцца нешта падобнае да таго, што зрабіў-бы чалавек, якому цераз ускаламучаную ваду трэба было-б убачыць дно, каб дастаць адтуль вельмі каштоўную пэрлу, і каторы ня хочачы ўвайсьці ў ваду, сьведама каламуціў-бы яе йзноў, як толькі яна пачынала-б састанаўляцца ды рабіцца празрыстай. Чалавек, які ап'янее, часта стаіць нярухома на тым самым, няясным, супярэчным сьветапаглядзе, упіраючыся кажнай прасьветлай парой у тую самую сьцяну, у якую ён упіраўся 10—20 гадоў таму назад і якую няма чым прабіць, таму, што ён сам сьведама прытупляе тое вастрыё думкі, якое адно магло-бы прабіць яе.

Няхай кажны ўспомніць сябе, які ён у тую пару, калі п'е ды курыць, ды няхай зьверыцца аб гэтым другім людзям, дык кажны ўбачыць адну заўсёдную, пастаянную рысу — граніцу, адзяляючую людзей, якія ўпіваюцца, ад людзей свабодных ад дурману: ён убачыць, што чым больш чалавек адурвае сябе п'янствам, тым больш ён маральна нярухомы.

# BIEŁARUSKAJA CHRONIKA

**Pieśnia biełaruskaja ŭzbahačvajecca.** U kancy studzienia sioleta viedamy ŭkrainski kampazytar Hajvoronśkyj z Nju-Jorku (Ameryka) zharmanizavaŭ i pryslaŭ u Vilniu kiraŭniku choru Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu hram. R. Šyrmie 6 biełaruskich narodnych pieśniaŭ. Adna z ich „Oj zahudu, zahudu"—dla soprana solo i na miašany chor, a rešta — 5 pieśniaŭ— vałačobnyja — na miašany chor i paasobna na chor mužčynski i žanočy. Jość heta pieśni: a) „Na Vialikdzień"— z Pružanskaha pav., b) „Idziom, pajdziom udol vulicy" — z Brasłaŭskaha pav., c) „Chodzić pava pa vulicy" — z Sakolskaha pav., d) „A ŭ lesku, lesku" — z Vialejskaha pav. i e) „A ŭ harodzie na pahodzie"— z Vialejskaha pavietu. Vialikamu Synu Ukrainskaha Narodu Praf. Hajvoronśkamu za biezinteresoŭnuju pracu dladabra biełaruskaje kultury šlom ad biełaruskaje moładzi ščyruju biełaruskuju padziaku!

**Biełaruski Muzej raźvivajecca.** Biełaruski Muzej im. Ivana Łuckieviča ŭ Vilni, nia hledziačy na toje, što nie atrymlivaje nijakaje pomačy z boku haspadarstviennaha skarbu i ŭtrymlivajecca z dabravolnych achviaraŭ biełaruskaha hramadzianstva, uściaž raźvivajecca. Za 1938 hod muzej atrymaŭ ad roznych asobaŭ achviaraŭ i depozytaŭ rečami 165, aprača taho 331 manetu i 78 banknotaŭ. Lik ahladaŭšych muzej za toj-ža 1938 h. dasiah 5285 asobaŭ (ŭ hetym 113 ekskursijaŭ). Dahetul u hod adviedvała muzej nia bolej 5 tysiač asob.

**Vysialeńni.** Nadychodziać novyja viestki ab vysialeńni z h. zv. pahraničnaje pałasy. I tak vysieleny ŭ Navahradčynie hetkija Biełarusy: Mikałaj Lecko z v. Vierbica, Niehnievickaje voł., Pilip Karpovič z v. Papłavy, Niehnievickaje voł., Mikałaj Sielivončyk z Moŭčadzkaj voł., Monič Chviedar z v. Bajarskaja, Šocki Michał, Šocki Arsień i Maryja Łopockaja z v. Astašyn;Uładzimier Karaś i Uładzimier Macko z v. Muravany; Aleksandar Chinievič z v. Kožovo; Arsień Budziejko z v. Kaŭšoŭ.

**20-ja ŭhodki isnavańnia Biełaruskaje Himnazii ŭ Vilni.** U studzieni sioleta minuła 20 hod ad załažeńnia ŭ Vilni pieršaje Biełaruskaje Himnazii. Jubilej hety treba było-b Biełarusam jak-niebudź adznačyć.

**Sprava nabaženstvaŭ dla Biełarusaŭ Katalikoŭ.** Jak my ŭžo pisali, paśla vysialeńnia Ks. Ad. Stankieviča z Vilni paŭstała pytańnie, jak dalej budzie z nabaženstvami dla vil. Biełarusaŭ Katalikoŭ. U hetaj spravie chadziła da vilenskaha arcybiskupa Jałbžykoŭskaha biel. delehacyja, katory vysluchaŭšy delehacyju daručyŭ dalej adpraŭlać nabaženstvy i havaryć kazańni dla Biełarusaŭ Ks. Dr. St. Hlakoŭskamu. Praz uvieś-ža m-c studzień nabaženstvy dla Biełarusaŭ u kaściele śv. Mikałaja ŭ Vilni adpraŭlaŭ Ks. Praf. Taškunas—Litoviec, za što specyjalnaja delehacyja ad Biełarusaŭ ščyra jamu dziakavała.

**Lekcyja ab historyi Biełarusi.** 29.I u Vilenskim Universytecie mgr. M. Škialonak pračytaŭ lekcyju ab pieršym peryjadzie historyi Biełarusi, h. zn. ab tym časie, kali Biełaruś była padzielena na paasobnyja samastojnyja častki (ad X da XIII stahodździa).

**Lekcyja ŭ Biel. Stud. Sajuzie.** — 1.II.39 u Biełaruskim Studenckim Sajuzie ŭ Vilni hram. Uł. Kazłoŭski pračytaŭ lekcyju na temu: „Kryzys demokracyi". Paśla adbyłasia žyvaja dyskusija, u jakoj prysutnyja źbivali ćvierdžańni lektara.

3.II tam-ža adbyŭsia viečar pryśviačany biełaruskamu Słuckamu paŭstańniu z 1920 h. suproć balšavikoŭ. Lekcyju čytaŭ stud. B. Sieńko.

**Viečar humaru.** Biel. Stud. Sajuz 28.I ładziŭ u Vilni viečar humaru.

**Novy biełaruski ahranom.** Na pačatku hetaha hodu atrymaŭ na Vilenskim Universytecie dyplom inžyniera-ahranoma Michał Kancelarčyk — siabra Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu. Novaha biełaruskaha maładoha ahranoma vitajem i žadajem płodnaje pracy na nivie biełaruskaje kultury.

**Viečarynka.** Vučnioŭski samaŭrad Vilenskaje Biełaruskaje Himnazii 4.II ładziŭ biełaruskuju viečarynu.

**Z vydavieckaje nivy.** 30.I vyjšła z druku 4 knižka biełaruskaha litaraturna-navukovaha i hramadzkaha kvartalnaha časapisu „Kałосьсе" za 1938 h. Źmiest hetaha časapisu, jak zaŭsiody, cenny i bahaty. Adrys redakcyi: Vilnia, Zavalnaja 1.

**Z žyćcia Biełarusaŭ na emihracyi.** Hazety padajuć novyja viestki z žyćcia biełaruskich emihrantaŭ, dziejnaść jakich uściaž ažyŭlajecca.

Tak, miž inšym, u **Čechasłavaččynie,** u Prazie — dzie tvorycca hałoŭny centr biełaruskaje emihracyi—stvorany „Biełaruski Fond" dziela źbirańnia matarjalnych srodkaŭ na pakryćcio koštaŭ źviazanych z nacyjanalnaj biełaruskaj pracaj. Zahadčykam Fondu vybrany Staršynia Biel. Rady V. Zacharka, skarbnikam — dr. J. Jermačenka; u Revizyjnuju Kamisiju — inž. V. Rusak, dr. A. Vituška i hram. K. Buśka.

**U Francyi** biełaruskaja emihracyja ŭ najbližejšym časie maje vydavać novy biełaruski časapis „Беларуская Трыбуна." Dasiul vychodzić tam časapis „Рэха" i Biuleteń Biełaruskaha Chaŭrusu.

## Сэн. Прыстар аб народных настроях на ўсход. землях

Львоўская газэта „Wiek Nowy" з 22.I.39, а так-жа і іншыя часапісы падалі наступную вестку:

„На канфэрэнцыі Т-ва Разьвіцьця Усходніх Зямель" сэнатар Прыстар гаворачы падаў цэлы рад вельмі цікавых фактаў ілюструючых некаторыя настроі на ўсходніх землях. Сэн. Прыстар сьцьвердзіў, што там камуністычная прапаганда ня сьціхае, а далей пранікае. Часта выдаюцца— казаў сэнатар — вельмі правільныя распараджэньні для цэлага насяленьня, патрэбныя і карысныя напр. для заходніх земляў, але шкодныя, як небяручыя пад увагу належных патрэбаў і асаблівасьцяў насяленьня ўсходніх зямель. Доказам гэтага быў закон аб лоўлі рыбы і падзеі над возерам Нарач.

Насельніцтва ўсходніх зямель ёсьць спакойным і пакорным. Аднак гэты спакой ёсьць грозны. Усе цешыліся ў верасьні, што будзе вайна. А на пытаньне: чаго цешыліся, тамашнія сяляне адказвалі: „будзе вайна, дык пастанем лесу і сенажацяў". Ужо прыгатаўляліся да пэяленьня тых абшараў між сабою. Але былі і такія, каторыя ў белы дзень ужо выпасвалі сенажаці, або звозілі дамоў дзерава з лясоў".

*Яшчэ ёсьць невялікая колькасьць беларускіх адрыўных календароў і Беларускага Сялянскага Календара кніжкі на 1939 г. Дык хто іх ня мае, няхай зараз-жа купіць!*

